ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б



## ЗА БАЛЬШАВІЦКАЕ ПРАВЯДЗЕНЬНЕ ПРЫЗЫВУ 1911 г. НАРАДЖЭНЬНЯ

ЖНІВЕНЬ

№ 18 (33)

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933

Рэдактар *Фрыдлянд*
Літправка і карэктура *З. Чаркушэвіч*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў набор 27/VIII—33 г.
Падпісана да друку 30/VIII—33 г.
Набрана па лін. № 6
Адк. кор. друк. *А. Мацкевіч*

## ЗЬМЕСТ



Заказ № 1958. 12.000 экз. (1½ арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 717.

Друкарня імя Сталіна.



## ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ АБ ПРЫЗЫВЕ 1911 г.

Пад руйнуючымі ўдарамі сусьветнага эканомічнага крызіса ўсё больш і больш абвастраюцца супярэчнасьці паміж капіталістычнымі краінамі. Выхад з крызіса буржуазія шукае ў новай імпэрыялістычнай бойні, новай інтэрвэнцыі супроць СССР.

Падзеі на Далёкім Усходзе, прыход да ўлады фашысцкай рэакцыі Гітлера ў Германіі—яскрава сьведчаць аб гэтым.

Перад тварам імпэрыялістычнай політыкі капіталістычных краін Савецкі саюз, які пераможна будуе соцыялізм, зьяўляецца адзінай краінай, няўхільна праводзячай сапраўдную політыку міра.

**Змагаючыся за мір, СССР адначасова ўсямерна ўмацоўвае сваю абароназдольнасьць і ўзмацняе баявую магутнасьць Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі.**

**У гэтай складанай абстаноўцы ўвосень гэтага года на зьмену старым байцам, якія ідуць у доўгатэрміновы водпуск, у рады РСЧА уліецца новае папаўненьне — працоўная моладзь 1911 года нараджэньня.**

**Праваздімы штогод прызыў у РСЧА чарговых узростаў мае аграмаднае значэньне ва ўмацаваньні абароны Савецкага саюза.**

У армію прыходзіць вялікая колькасьць новых людзей, якіх армія ў вельмі кароткі тэрмін павінна выхаваць, навучыць, падрыхтаваць да ступені высокакваліфікаваных, культурных, аўладаўшых складанай баявой тэхнікай байцоў.

Вось чаму падрыхтоўка і сам прызыў па Савецкім саюзе праводзіцца як масавая палітычная кампанія пад лёзунгам:

**«Дамо Чырвонай арміі клясава-стойкае, палітычна пісьменнае, ваенна-падрыхтаванае і фізычна здаровае папаўненьне».**

Арганізуючы падрыхтоўку да прызыва, заводзкія, колгасныя, саўгасныя, партыйныя і комсамольскія арганізацыі павінны несьці адказнасьць за кожнага прызыўніка, пасылаемага ў армію, вывучыць яго клясавы твар, падрыхтаваць яго да ўступленьня ў рады РСЧА. Яны павінны запомніць словы т. Варашылава аб тым, што:

> «У нас можа быць многа найлепшай зброі, але калі мы ня будзем мець настаяшчай сваёй сапраўднай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, калі наша армія ня будзе складацца з адданых пролетарскай рэволюцыі, палітычна моцна падкаваных, добра ведаючых сваю

справу камандзіраў, політработнікаў і байцоў — вораг адбярэ ў нас гэтую зброю, ніякая тэхніка не паможа нам абараніць нашу вялікую краіну».

## Клясавы адбор прызыўнікоў

Асноўная асаблівасьць нашай Чырвонай арміі састаіць у тым, што яна **«як прылада пролетарскай дыктатуры павінна па неабходнасьці мець адкрыта клясавы характар, г. зн. фармавацца выключна з пролетарыята і блізкіх яму паўпролетарскіх слаёў сялянства»** (з програмы ЎсеКП(б), прынятай VIII зьездам).

Права насіць пачэснае званьне байца Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, права ўладаць зброяй у нашай краіне належыць **толькі працоўным.** Чырвонаармеец — сын працоўнага народа.

Кулаком, гандляром, лішэнцам і іх дзецям ніколі не атрымаць званьня байца нашай Чырвонай арміі. Вось чаму вораг маскуецца, шукае дзесяткі спосабаў ашукаць прызыўную комісію. Ён стараецца выкарыстаць у сваіх асабістых інтарэсах пачэснае званьне абаронца соцыялістычнай краіны. Вось чаму да кожнага прызыўніка трэба падыходзіць з асаблівай асьцярогай, з асаблівай пільнасьцю.

А ў нас яшчэ бывае так, што прызыўніка характарызуюць з прадпрыемства «агульна» або па прынцыпу — «гэта свой хлапец», не стараючыся нават як належыць даведацца пра яго мінулае. А на практыцы гэты «свой хлапец» нярэдка аказваецца клясава-чужым.

Вось прыклады, якія дастаткова яскрава гавораць аб тым, да чаго даводзіць страта клясавай пільнасьці.

Партыйны і комсамольскі колектывы фанэрнага завода ў Віцебску далі добрую характарыстыку Лукашонку Васілю, які, як потым выявілі, зьяўляецца сынам кулака, раскулачанага ў 1930 г., пазбаўленага выбарчых правоў з 1926 г.

На акулярнай фабрыцы, там-жа, пра прызыўніка Каркунова напісалі: «Член комсамола, добра адносіцца да вытворства». Праверка выявіла, што бацька яго ў гады грамадзянскай вайны пайшоў у банду Мамаева.

Клімаву Паўлу на ст. Ворша-ўсходняя 4-га будаўнічага вучастка, ураджэнцу Казлоўскага раёна ЦЧВ комісія садзейнасьці дае рэкомэндацыю: «Дапусьціць у РСЧА, як актывіста профупаўнаважанага». А з месца пастаяннага жыхарства атрымалі весткі, што Клімаў зьяўляецца сынам кулака, індывідуальна абкладзенага і ўся яго сям'я, у тым ліку і ён сам, пазбаўлены выбарчых правоў.

Такіх прыкладаў можна прывесьці многа. Яны лішні раз сьведчаць аб неабходнасьці

высокай **клясавай пільнасьці,** патрабуюць ад партыйных арганізацый суровай рэволюцыйнай адказнасьці за кожнага прызыўніка.

Кожны прызыўнік, які ідзе ў Чырвоную армію, павінен мець характарыстыку арганізацыі, прадпрыемства, саўгаса, колгаса, дзе ён працуе. Але такіх характарыстык па БССР складзена вельмі мала. Якасьць-жа гэтых характарыстык, як паказваюць факты, вельмі нізкая. У тым-жа Віцебску, на махорачнай фабрыцы імя «КІМ», на заводзе «Чырвоны мэталіст» цэхавыя партыйныя і комсамольскія ячэйкі, цэхупаўнаважаныя стаяць у баку ад гэтай работы. Характарыстыкі дапрызыўнікаў складаюцца ў большасьці цэхавымі трыкутнікамі ў «габінэце». А вынікі — вось яны: нам. дырэктара махорачнай фабрыкі Файнбэрг запэўніў комісію па падрыхтоўцы да прызыва, што клясавы адбор дапрызыўнікаў праведзен добра.

Што-ж выявілася? У характарыстыцы Лабзава адзначана, што яго магчыма дапусьціць у РСЧА. На справе-ж Лабзаў сын кулакашкодніка, яму ня месца ня толькі ў радох Чырвонай арміі, але і на фабрыцы.

Паасобныя раёны БССР да клясавага падбору падыйшлі сапраўды па-бальшавіцку, як таго патрабуюць інтарэсы ўмацаваньня баявой магутнасьці Чырвонай арміі. У гэтых раёнах ужо з другой паловы мая пачалося масавае складаньне політхарактарыстык і аб-

меркаваньне іх на рабочых сходах, на пленумах сельсаветаў і на сходах колгасьнікаў.

Але-ж большасьць раёнаў БССР усё-ж адстаюць у рабоце па клясаваму адбору прызыўнікоў. У гэтых раёнах толькі што прыступілі да складаньня характарыстык і абмеркаваньня кандыдатур дапрызыўнікаў на сходах, пленумах сельсаветаў (Жлобін, Крупкі, Мазыр). Ясна, што гэта зусім недапушчальна.

Бо той, хто грэбуе пытаньнямі прызыва, хто не адчувае сваёй адказнасьці за клясавы адбор прызыўнікоў, той вольна ці нявольна становіцца пасобнікам клясавага ворага. Больш таго—той садзейнічае пранікненьню клясавага ворага ў рады Чырвонай арміі, гэтай мацнейшай прылады пролетарскай дыктатуры, той становіцца на шлях прадажніцтва інтарэсаў справы партыі і рабочай клясы.

Каб гэтага ўнікнуць, трэба правільна і ў час арганізаваць у колгасе, саўгасе і на прадпрыемстве праверку прызыўнікоў. Пачаць трэба перш за ўсё са стварэньня комісіі садзейнасьці прызыву.

Комісіі садзейнасьці прызыву трэба асабліва асьцярожна і ўважліва праверыць прызыўнікоў, прышоўшых на прадпрыемства нядаўна або прыехаўшых з іншых раёнаў. Бо кулак, прабуючы пранікнуць у Чырвоную армію, часта знарок пераяжджае на новыя месцы. Комсад павінен запытаць харак-

тарыстыкі ад мясцовых партыйных і савецкіх організацый таго раёна, колгаса, прадпрыемства, у якім даны прызыўнік раней жыў, працаваў.

На новабудоўлях, дзе асабліва трудна выявіць клясавы твар прызыўніка, абмеркаваньне сьпісаў прызыўнікоў трэба правесьці на сходах землякоў-аднавяскоўцаў, выхадцаў з аднаго раёна і т. д.

Трэба выкарыстаць мясцовую шматтыражку, а калі яе няма—насьценную газэту, і на іх старонках памагчы прадпрыемству падрыхтавацца да прадстаячага прызыва.

## Чырвонай арміі—падрыхтаванага, дысцыплінаванага байца

Вайна ў сучасных умовах патрабуе вялізарнай колькасьці складаных машын самага рознастайнага прызначэньня і прымяненьня. А калі так, то баец павінен умець абыходзіцца з прадастаўленымі яму тэхнічнымі сродкамі барацьбы.

> «Вайна мэханізуецца, машынізуецца, індустрыялізуецца, ператвараючыся тым самым у вялізарную вельмі складаную фабрыку зьнішчэньня людзей. Дык вось на гэтай фабрыцы, у гэтай мэханізаванай вайне, якой мы ня хочам, супроць якой мы змагаемся, але якую супроць

нас рыхтуюць, будуць патрэбны кваліфікаваныя мэханікі, тэхнікі, будуць патрэбны людзі, гатовыя ня толькі памерці, але і ўмеючыя правільна абыходзіцца з кожным вінцікам гэтай вельмі грознай і далёка няпрыемнай машыны» (Варашылаў).

Новая тэхніка, якою цяпер распалагае наша армія, і надзвычайна кароткі тэрмін службы чырвонаармейца ў радох РСЧА ускладнілі-б баявую падрыхтоўку высокакваліфікаванага байца, аўладаўшага тэхнікай і баявымі сродкамі сучаснага боя, калі-б у нас не існавала **папярэдняя дапрызыўная ваенная падрыхтоўка моладзі.**

Ваенную падрыхтоўку праходзіць дапрызыўнік без адрыва ад вытворства. На ваеннавучэбных пунктах, у гуртках і школах Асавіяхіма і Аўтодора.

Хто ня ведае, што Чырвоная армія—адна з самых дысцыплінаваных армій у сьвеце? Уступаючы ў рады РСЧА, малады баец перад тварам усіх працоўных дае ўрачыстае абяцаньне:

«Я абавязуюся строга і няўхільна захоўваць рэволюцыйную дысцыпліну і бесьпярэчна выконваць усе загады камандзіраў, пастаўленых уладай Рабочага і Сялянскага Ўраду.

Стаўшы чырвонаармейцам, малады прызыўнік сваё ўрачыстае абяцаньне выконвае ва ўвесь час службы ў радох Чырвонай арміі. Ён ведае, што без рэволюцыйнай дысцыпліны—асновы баявога парадка і баявой вучобы—Чырвоная армія ня можа існаваць.

Падрыхтоўваючы сябе да службы ў радох Чырвонай арміі, прызыўнік павінен памятаць словы У. І. Леніна:

**«Хто не падтрымлівае цалкам і беззаветна Чырвоную армію, не падтрымлівае з усіх сіл парадка і дысцыпліны ў ёй—той прадажнік і здраднік».**

Дысцыпліна буржуазных армій трымаецца на асновах клясавага падначаленьня салдат з рабочых і сялян **афіцэрам, з памешчыкаў і фабрыкантаў з буржуазіі.**

Зусім іншая дысцыпліна ў Чырвонай арміі.

У адрозьненьне ад буржуазных армій, якія зьяўляюцца ў руках буржуазіі сьляпой прыладай для падаўленьня клясы эксплёатуемых, наша армія мае тую асаблівасьць, што яна служыць для ўсталяваньня ўлады рабочых і сялян, для ўмацаваньня дыктатуры пролетарыята, для абароны інтарэсаў соцыялістычнага будаўніцтва.

У адрозьненьне ад армій буржуазных капіталістычных дзяржаў, выхоўваемых у духу нянавісьці да рабочых і сялян іншых краін,

**«наша армія выхоўваецца ў духу інтэрнацыяналізма, у духу інтарэсаў рабочых усіх**

**краін—іменна таму яна, наша армія, зьяўляецца арміяй сусьветнай рэволюцыі, арміяй рабочых усіх краін»** (С т а л і н).

Вось чаму кожнаму чырвонаармейцу неабходна мець: вялізарнейшае клясавае сазнаньне, высокую дысцыплінаванасьць, адвагу, сьмеласьць, рашучасьць, настойлівасьць і выносьлівасьць. Гэтыя якасьці ў будучым байцы павінны выхаваць партыйныя, комсамольскія і асоавіяхімаўскія організацыі ў процэсе ваеннай падрыхтоўкі прызыўніка задоўга да самага прызыва.

Чырвонаармеец павінен аўладаць перадавой тэхнікай, якою ўзброена наша Чырвоная армія, але ясна, што аўладаць тэхнікай, вывучыць і прымусіць падпарадкавацца сабе складаную баявую машыну можа толькі пісьменны, культурны чырвонаармеец.

Вось чаму **прызыўнік яшчэ задоўга да прызыва павінен быць навучан пісьменнасьці.**

Калі ў мінулым годзе пісьменным лічыўся той прызыўнік, які ўмеў чытаць, пісаць і ведаў чатыры дзеяньні арытмэтыкі, то ў гэтым годзе гэтага ўжо мала. Прызыўнік павінен ня толькі добра ўмець чытаць і пісаць—ён павінен ведаць дзесятковыя і простыя дробы, і што яшчэ лепш—умець разьбірацца ў элемэнтарных паняцьцях геомэтрыі і альгебры.

Але апрача засваеньня перадавой ваеннай тэхнікі, культурнасьць, пісьменнасьць пры-

зыўніка неабходна, як указваў Ленін, яшчэ і таму, што

**«няпісьменны стаіць па-за палітыкай, у баку ад грамадзка-палітычнага жыцьця. Перш чым уцягнуць яго ў палітыку, яго трэба навучыць пісьменнасьці».**

Ня гледзячы на тое, што да прызыва асталіся лічаныя дні, работа па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці ў значнай большасьці раёнаў праходзіць яўна нездавальняюча. У некаторых раёнах лічаць, што «да пачатку прызыва яшчэ далёка». Ёсьць і такія раёны, якім работу па ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці нібы «перашкаджала правесьці веснавая сяўба».

Рагачоўскі раён лічыцца раёнам суцэльнай пісьменнасьці, але чамусьці сярод прызыўнікоў ёсьць 52 няпісьменных і 401 малапісьменных, і гэтыя дапрызыўнікі ня поўнасьцю ахоплены ліквідацыяй няпісьменнасьці і малапісьменнасьці.

На комбінаце «Спартак» (Гомель) сярод дапрызыўнікаў выяўлена 7 малапісьменных і 1 няпісьменны. З гэтай колькасьці толькі 4 чалавекі ахоплены школай. Як астатнія ліквідуюць сваю няпісьменнасьць—ніхто не правярае.

У Бесядовіцкім сельсавеце, Касьцюковіцкага раёну, 16 малапісьменных таварышоў— наведваюць занятні толькі 11.

Дырэктывы ЦК КП(б)Б аб правядзеньні казарменнага збора няпісьменных дапрызыўнікаў выканалі толькі 26 раёнаў, а ў астатніх раёнах такіх збораў ня было.

Комісіі садзейнасьці прызыву павінны стаць застрэльшчыкамі ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці. Яны павінны ўсяляк садзейнічаць і памагаць органам народнай асьветы і ТПН у іх рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці, вылучаючы ў помач ім актыўных комсамольцаў, пэдагогаў, студэнтаў і культармейцаў. Колгасныя ячэйкі партыі і комсамола павінны прыняць шэфства над лікпунктамі. Яны павінны памагчы запасьціся падручнікамі, кнігамі і іншымі дапаможнікамі. Яны павінны памагчы організаваць вучобу.

## За здаровае, фізычна моцнае папаўненьне

Чырвонай арміі патрэбны здаровыя, моцныя і фізычна выносьлівыя байцы. Чырвонаармеец у арміі сутыкнецца з цэлым радам труднасьцяй, няўнікнёных ва ўмовах ваеннага жыцьця: працяглыя пераходы, цяжкае ваеннае знараджэньне, асобыя кліматычныя ўмовы і да т. п. Усё гэта патрабуе ад байца пэўнай выносьлівасьці і фізычнага загартаваньня. Патрабаваньні гэтыя значна выростаюць у ваенны час, калі фізычная вытрымка, выносьлівасьць, здольнасьць байца пера-

носіць труднасьці ваеннага часу падчас могуць аказацца рашаючымі ў выкананьні той або іншай баявой опэрацыі або задачы.

Вось чаму прызыўнік яшчэ да прыхода ў армію павінен быць фізычна падрыхтаван і загартаван. Папярэдняя фізычная падрыхтоўка паможа прызыўніку лепш усвойваць ваенную справу, зробяць яго поўнацэнным байцом, здольным пераносіць труднасьці, а падчас і нястачы ваеннага жыцьця.

Комісія садзейнасьці прызыву павінна ўзяць на сябе организацыю аздаравіцельнай фізкультурнай работы. Яна абавязана дабіцца пагалоўнага ахвата прызыўнікоў мэдычным аглядам і дыспансэразацыяй. Заключэньне ўрача павінна быць унесена ў спэцыяльную мэдычную картку прызыўніка і выкананьне яго для прызыўніка павінна быць абавязковым. Дабіўшыся 100 проц. ахвата прызыўнікоў мэдаглядам, профорганізацыі павінны накіраваць хворых прызыўнікоў для лячэньня ў амбуляторыі, дыспансэры, санаторыі, курорты. **Прызыўнікоў-ударнікаў, даўшых высокія паказчыкі як на вытворчасьці, так і ў ваенна-палітычнай падрыхтоўцы, трэба накіроўваць у дамы адпачынку.**

**Даць Чырвонай арміі здаровае, фізычна моцнае папаўненьне—адна з адказных задач падрыхтоўкі да чарговага прызыва.**

Партыйныя, комсамольскія організацыі павінны дабіцца, каб прызыўнік у рады Чырво-

най арміі прышоў ударнікам, узброеным вопытам ударнай работы на вытворстве, у колгасе, саўгасе. Яны павінны ўцягнуць прызыўніка ў актыўную вытворчую, грамадзкую работу, дабіваючыся, каб прызыўнік стаў застрэльшчыкам соцыялістычнага спаборніцтва свайго прадпрыемства, колгаса, МТС або саўгаса.

Вось некалькі прыкладаў, калі прызыўнікі сталі сапраўды застрэльшчыкамі, ударнікамі на вытворстве, у саўгасах і колгасах.

За 3 дні ў Асіпавіцкім раёне з прызыўнікоў 1911 г., комсамольцаў, пераменьнікаў, чырвоных партызан былі створаны 33 брыгады па ваенізаванай ахове ўраджаю.

Першы абоз у 200 з лішкам вазоў сена прышоў 16 ліпеня ў Асіповічы на чале з прызыўнікамі.

У Барысаўскім сельсавеце Рэчыцкага раёна 2 дзесяцідворкі з ліку дапрызыўнікаў паказалі сапраўды ўзорную працу сваіх дзесяцідворак у пасеўнай.

У Каркавіцкім сельсавеце, Дрысенскага раёна, дапрызыўнікі абвясьцілі сябе ўдарнікамі другой пяцігодкі. Організавалі з дапрызыўнікаў дазорныя пасты па ахове ўраджаю. Дапрызыўнікамі організаван суботнік па сенаўборцы ў колгасе «Гігант», дзе выкасілі 42 га сенажаці.

Ідучы ў Чырвоную армію, кожны прызыўнік павінен добра памятаць словы Ў. І. Леніна.

**«Вучыся харашэнька ваеннай справе. Гэтая навука неабходна для пролетараў не для таго, каб страляць у сваіх братоў рабочых іншых краін... А для таго, каб пакласьці канец эксплёатацыі, галечы і войнам».**

---

## ЧАМУ ПЕРАДАНЫ ПРОФСАЮЗАМ ФУНКЦЫІ ОРГАНАЎ ПРАЦЫ

Пастанова ўраду і ЎсеЦСПС аб зьліцьці Наркомпрацы з УсеЦСПС і аб перадачы функцый НКП і яго мясцовых органаў профсаюзам зьяўляецца мерапрыемствам буйнейшага палітычнага значэньня.

Для таго, каб палепшыць абслугоўваньне рабочых, для сыстэматычнага ўздыму дабрабыта рабочай клясы, справа социяльнага страхаваньня, аховы працы і працоўнага законадаўства перадана **«цалкам і непасрэдна профсаюзам—гэтым найбольш масавым арганізацыям рабочых у нашай краіне»** (III пленум УсеЦСПС).

Перадача функцый органаў працы профсаюзам зьяўляецца, вядома, не выпадковым мерапрыемствам. Гэтае рашэньне, як указваў т. Швэрнік на III пленуме ЎсеЦСПС, **выцякае з усёй лініі партыі ў адносінах да профсаюзаў, з росту нашай соцыялістычнай гаспадаркі і са ўзрослай ролі профсаюзаў.**

Партыя заўсёды ўдзяляла выключную ўвагу ролі і задачам профсаюзаў на розных эта-

пах соцыялістычнага будаўніцтва, дапасавальна да патрабаваньняў пролетарскай дыктатуры ў той ці іншы пэрыод.

Цэнтральным у ленінскім вучэньні аб профсаюзах зьяўляецца азначэньне профсаюзаў як школы комунізма, і іменна вакол гэтага пытаньня партыі прышлося вытрымаць барацьбу з опортуністамі ўсіх масьцей. Партыя нашчэнт разьбіла «тэорыю Троцкага, прабаваўшага «абярнуць профсаюзы ў падсобны бюрократычны апарат пры гаспадарчых органах» (Кагановіч). Той-жа лёс спасьціг «вучэньне» Шляпнікава, які ў процівагу спробам Троцкага «адзяржавіць» профсаюзы прапанаваў «асаюзіць» дзяржаву, перадаўшы кіраўніцтва прамысловасьцю ў рукі профсаюзаў, г. зн. зноў-такі **зьніштожыць профсаюзы, як школы комунізма.**

Нарэшце, ужо ў рэконструкцыйны пэрыод партыя нанесла зьнішчальны ўдар па правапортуністычнай опозыцыі, проціставячай абаронныя функцыі профсаюзаў інтарэсам соцыялістычнага будаўніцтва.

Упарта перамагаючы ўсе гэтыя скажэньні ў тэорыі і практыцы профруху, партыя няўхільна вяла пасьлядоўную політыку ўсямернага ўмацаваньня і павышэньня ролі і значэньня профсаюзаў як школы комунізма, «школы аб'яднаньня, школы солідарнасьці, школы абароны сваіх інтарэсаў, школы гаспадараньня, школы кіраўніцтва» (Ленін).

Яшчэ X зьезд партыі, гаворачы аб ролі і задачах профсаюзаў, указваў на асобае і своеасабліва становішча гэтых організацый у Савецкай Расіі:

«Профэсіянальныя саюзы,—указана ў рэзолюцыі гэтага зьезда,—**ўжо ў даны момант** выконваюць некаторыя функцыі чыста дзяржаўных органаў (вырабатка тарыфаў, разьмеркаваньне спэцвопраткі і т. д.). **У Савецкай дзяржаве гэтыя дзяржаўныя функцыі профсаюзаў будуць паступова павялічвацца».**

XVI зьезд партыі падкрэсьлівае неабходнасьць «узмацніць згодна програмы ЎсеКП(б), ролю і ўдзел профсаюзаў у справе кіраўніцтва прамысловасьцю»; соцспаборніцтва і ўдарніцтва—асноўнае зьвяно ўцягненьня шырокіх мас у кіраўніцтва вытворствам; профсаюзы—**тварам да вытворства,** за выкананьне народна-гаспадарчых пляnaў.

Побач з вытворчымі задачамі XVI зьезд партыі выстаўляе перад профсаюзамі разгорнутую програму работы ў абсягу **палепшаньня матэрыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых,** тым самым лішні раз падкрэсьліваючы **неаддзялімасьць** гэтых задач ад вытворчых задач, ад задач соцыялістычнага будаўніцтва.

XVI зьезд партыі прапануе профсаюзам **«быць рашаючай інстанцыяй** у справе рацыянальнага выкарыстаньня аграмадных сум, расходваемых соцстрахам». Зьезд партыі

ўказвае, што профсаюзы павінны «сачыць за правільным расходваньнем сродкаў, асыгнуемых на жыльлёвае будаўніцтва і эфэктыўнасьцю іх скарыстаньня». Зьезд ускладае на профсаюзы таксама конкрэтныя задачы ў абсягу барацьбы за **рабочае снабжэньне,** палепшаньне работы **Наркомпрацы па ахове працы** і т. д.

## Профсаюзы і органы працы

Мы бачым, як пасьлядоўна партыя праводзіць сваю політыку ўмацаваньня профсаюзаў, павышэньня іх ролі і значэньня ў соцыялістычным будаўніцтве і ў абслугоўваньні штодзенных патрэб рабочай клясы.

Разгром старога опортуністычнага кіраўніцтва даў магчымасьць профсаюзам рашуча перастроіць свае рады і павярнуцца тварам да вытворства. Адным з важнейшых організацыйных мерапрыемстваў у гэтым напрамку было **разбуйненьне** профсаюзаў, праведзенае па ініцыятыве ЦК партыі і т. Сталіна. Гэтае разбуйненьне (замест 23 профсаюзаў організавана 47) дало магчымасьць профсаюзам **конкрэтызаваць сваё кіраўніцтва** вытворчай актыўнасьцю мас, з аднаго боку, і палепшыць справу абслугоўваньня матэрыяльных і культурных патрэбнасьцяй рабочых—з другога.

IX зьезд профсаюзаў, а да яго яшчэ V пленум УсеЦСПС, асабліва рэзка падкрэсьліў задачы профсаюзаў па абслугоўваньні матэрыяльных і культурных запросаў рабочых, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на справу социяльнага страхаваньня. V пленум патрабаваў карэннага палепшаньня ўсёй сеткі социяльнага страхаваньня зьверху данізу, перабудовы яе работы, набліжэньня да заводаў, фабрык і буйных саўгасаў, палепшаньня кадраў работнікаў па социяльным страхаваньні, рашучага выкараненьня бюракратызма ў практыцы органаў социяльнага страхаваньня.

V пленум высунуў і конкрэтную програму дзеяньня па перабудове Соцстраха. Быў праведзен перагляд законадаўства па соцстраху ў бок пераважнага забесьпячэньня інтарэсаў рабочых **вядучых галін і профэсій,** пабудавана шырока разгалінаваная сетка выплатных пунктаў на прадпрыемствах прамысловасьці, транспорта, на буйных будаўніцтвах і ў саўгасах. Аднačасова было організавана 11 галінных кас пры буйнейшых ЦК профсаюзаў з ахватам такіх вядучых галін як машынабудаўніцтва, мэталюргія, рудная прамысловасьць, асноўная хімія, вугаль, чыгуначны транспорт і т. д.; быў створан вялізарны рабочы актыў у асобе страхавых дэлегатаў.

Усе гэтыя. мерапрыемствы, нясумненна, прывялі да палепшаньня работы соцстраха,

набліжэньня яго да вытворства, дапамагаючы лепшай увязцы «конкрэтных патрэб рабочых з інтарэсамі соцыялістычнага будаўніцтва» (Л. Кагановіч). **Профсаюзы на справе сталі рашаючай інстанцыяй у справе рэгуляваньня і контроля дзейнасьці соцстраха.**

Тое-ж самае і ў адносінах **аховы працы.** Профсаюзамі організавана **грамадзкая інспэкцыя працы** для аказаньня конкрэтнай помачы інспэктарам працы і для максімальнага прыцягненьня рабочых да контроля за станам аховы працы. Грамадзкая інспэктура цяпер налічвае каля **40 000 чалавек,** што **ў 10 раз перавышае колькасьць інспэкцыі органаў працы.**

Яшчэ больш па колькасьці актыў створан профсаюзамі ў асобе страхавых дэлегатаў, лік якіх перавышае 50 000 чалавек. Гэтая аграмадная стотысячная армія інспэктараў працы і страхавых дэлегатаў зьяўляецца адным з найбольш яскравых праяўленьняў посьпеху нашых профсаюзаў як школы комунізма, школы абароны сваіх інтарэсаў, школы кіраўніцтва дзяржавай. Паводле сьведчаньня НКПрацы, многія грамадзкія інспэктары па сваім узроўні і якасьці работы не ўступаюць, а наадварот стаяць **вышэй,** чым штатныя інспэктары органаў працы.

Апрача таго, новыя задачы, сформуляваныя ў 6 гістарычных указаньнях т. Сталіна, **карэнным чынам** зьмянілі задачы Нарком-

працы і яго органаў. Органы працы пераключыліся ў сваёй практычнай рабоце на выкананьне гэтых указаньняў і тым самым яшчэ больш наблізіліся да профсаюзаў.

Сапраўды, чым займаўся Наркампрацы? Адной з асноўных задач Наркампрацы было **рэгуляваньне рынка працы, разьмеркаваньне рабочай сілы і барацьба з беспрацоўем.** Але **беспрацоўе,** якое з кожным днём расьце ў капіталістычных краінах, у нас канчаткова **ліквідавана.** Вярбоўка рабочай сілы заменена арганізаваным наборам і перадана гаспадарчым органам.

Падрыхтоўка кадраў стала таксама справай гаспадарчых арганізацый. Што датычыць соцстраха, то гэтая колёсальна вырасшая справа **перарасла** рамкі органаў Наркампрацы і Соцстраха.

Тое-ж самае адносіцца і да аховы працы, дзе апарат органаў працы ні па колькасьці, ні па структуры ня здолен быў **пасьпяваць** за ўсё узрастаючымі патрабаваньнямі прамысловасьці і вымушан быў большую частку сваёй работы пералажыць на плечы профсаюзнай інспэкцыі.

З другога боку, профсаюзы, падышоўшыя да пытаньняў аховы працы і соцстраха перш за ўсё пад вуглом гледжаньня **контроля,** у процэсе практычнай работы былі вымушаны фактычна расшырыць свае функцыі і ўключыцца ў штодзенную работу па ахове працы

і соцстраха з тым, каб забясьпечыць рэальнае палепшаньне абслугоўваньня рабочай клясы. Асабліва заметна гэта было ўнізу— на прадпрыемствах, дзе функцыі органаў Наркомпрацы фактычна **паглыналіся** прафсаюзнымі організацыямі.

Вось якія прадпасылкі прадшэдавалі і разам з тым абумовілі рашэньне партыі і ўраду аб перадачы функцый органаў працы ў веданьне профсаюзаў і аб пераходзе апошніх **ад контроля да непасрэднага кіраўніцтва** асноўнымі вагарамі рэгуляваньня працы.

* * *

Пасьля поўнай перадачы соцстраха ў непасрэднае веданьне профсаюзаў яшчэ больш узрастае адказнасьць профсаюзаў за правільнае скарыстаньне гэтых сродкаў. У сваім бязупынным росьце фонды соцыяльнага страхаваньня дасяглі ў першым годзе другой пяцігодкі колёсальнай сумы—$4\frac{1}{2}$ мільярдаў руб. Дастаткова сказаць, што **бюджэт соцстраха СССР у некалькі раз большы за ўвесь дзяржаўны бюджэт раду капіталістычных краін і трохі большы за ўвесь бюджэт такіх капіталістычных краін, як Італія, Польшча і Румынія, разам узятыя.** А каб судзіць аб тэмпах росту нашага Соцстраха, дастаткова сказаць, што бюджэт Соцстраха гэтага

года амаль у 10 раз перавышае бюджэт Соцстраха ў 1924-25 г.

Разам з Соцстрахам у веданьне нашых профсаюзаў пераходзіць колёсальная і вельмі складаная гаспадарка: мільярды рублёў, сотні дамоў адпачынку, санаторыяў, курортаў і лекавых установ, профілакторыяў, тысячы дзіцячых установ, пляцовак, ясьляў, дзіцячых дамоў, садоў і т. д. Напрыклад, толькі ў БССР да профсаюзаў пераходзіць бюджэт Соцстраха, роўны 80 мільёнам руб., 12 рэспубліканскіх дамоў адпачынку з прапускной здольнасьцю ў 29 200 чалавек і 1 санаторый «Сасноўка» з прапускной здольнасьцю ў 3 000 чалавек. Перадаецца таксама ў веданьне профсаюзаў 12 падсобных сельскіх гаспадарак, лекавыя і профілактычныя ўстановы, ясьлі, дзіцячыя сады, пляцоўкі і т. д.

З перадачай функцый Наркомпрацы і Соцстраха профсаюзам, абслугоўваньне рабочых і служачых, ахова іх працы соцстрахам, дамамі адпачынку і іншымі соцыяльна-бытавымі ўстановамі павінна быць значна палепшана. Пераважнае абслугоўваньне гэтымі ўстановамі ўдарнікаў, рабочых вядучых профэсій павінна стаць цэнтральнай задачай работы кожнага профсаюзьніка.

Тут профсаюзам прыдзецца грунтоўна папрацаваць.

На III пленуме ЎсеЦСПС было падкрэслена, што «справа ня проста ў тым, каб запры-

ходаваць у касу профсаюзаў бюджэт сацыяльнага страхаваньня, а ў тым, што прафсаюзы павінны **аўладаць** справай сацыяльнага страхаваньня, палепшыць і рушыць упе рад так, каб яно магло сапраўды лепш абслугоўваць рабочых».

Справай першачарговай важнасьці тут зьяўляецца выкараненьне ўсякага бюракратызма ў соцстраху і барацьба з ураўнілаўкай. Ужо сама па сабе структура органаў працы, пабудаваная не па вытворчым, а па тэрыторыяльным прызнаку, дапамагала гэтай ураўнілаўцы, не даючы магчымасьці ў дастатковай ступені выдзеліць абслугоўваньне рабочых вядучых галін вытворства прадпрыемстваў і вядучых прафэсій.

Але ўраўнілаўка ў органах Соцстраха ішла яшчэ і па другому руслу. Недастаткова-ж выдзеліць паасобную галіну прадпрыемстваў, або вядучую прафэсію для лепшага абслугоўваньня ўсімі відамі соцстраха. Для соцыялістычнага будаўніцтва ня менш важна выдзяленьне другога моманту, а іменна: ацэнкі самой работы данага рабочага, ступень яго вытворчай актыўнасьці, адносіны да працы. Між тым, на гэтым вучастку органы соцстраха дапускалі ўраўнілаўку ў самым горшым яе праяўленьні. Атрымлівалася так, што «лятун, сымулянт і прагульшчык забясьпечваюцца соцыяльным страхаваньнем нароўні

з перадавым рабочым-ударнікам і старым кадравіком».

Напрыклад, Смалявіцкая страхкаса па значнай частцы прадпрыемстваў (торфазаводах, на будаўніцтве) абмяжоўвала дапамогу па часовай непрацаздольнасьці рабочым і членам ІТР максымум у 300 руб., у той час, як на рабочых і ІТР максымум не пашыраецца. Шматлікія выпадкі накіраваньня на санкурлячэньне і ў дамы адпачынку служачых па рабочых пуцёўках (Менск, Ждановічы). У адзіны ў БССР плывучы дом адпачынку, прызначаны спэцыяльна для лепшых ударнікаў і герояў першай пяцігодкі, умудрыліся накіраваць машыністку (Веткаўскі раён), падлетка з 6-месячным стажам, ні ў чым асабліва не праявіўшых сябе на рабоце. На шчотачнай фабрыцы ў Менску існавала ўраўнілаўка ў забесьпячэньні па часовай непрацаздольнасьці, бяз усякай перавагі ўдарнікам і героям першай пяцігодкі.

III пленум УсеЦСПС высунуў праграму перабудовы соцстраха і ператварэньня яго ў **«сапраўды магутны вагар палепшаньня матэрыяльнага становішча рабочых, уздыму вытворчасьці працы, умацаваньня працоўнай дысцыпліны і барацьбы з цякучасьцю рабочай сілы».**

У БССР па прадпрыемствах на сёнешні дзень ёсьць 50 выплатных пунктаў, лік якіх у бліжэйшы час павінен павялічыцца да 250.

Яны павінны будуць пры помачы двухтысячнай арміі страхдэлегатаў і шматтысячнай арміі інспэктараў па ахове працы паказаць прыкладную работу па палепшаньні соцыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых.

Абавязак кожнага фабзаўкома ў цяперашні момант заключаецца ў тым, каб значна ўмацаваць работу выплатных пунктаў, стварыць вакол іх магутны актыў страхавых інспэктароў, інструктуючы іх і штодня памагаючы ім у рабоце.

Выходзячы з рашэньняў УсеЦСПС і ЦСПСБ, у бліжэйшыя дні будуць арганізаваны 30 галінавых кас пры ЦП саюзаў. Пры гарадзкіх і раённых профсаветах будуць арганізаваны аддзелы соцыяльнага страхаваньня.

Ня менш адказныя задачы стаяць перад профсаюзамі ў абсягу аховы працы.

«Ня можна цяпер гаварыць аб ахове працы «наогул», а трэба гаварыць аб ахове працы конкрэтна. Трэба ведаць ахову працы, трэба добра ведаць даную галіну прамысловасьці, трэба ведаць прадпрыемства, трэба ведаць думку рабочых, прыслухоўвацца да іх парад...

Трэба, каб справай аховы працы ўсутыч занялiся самі ЦК саюзаў і фабрычна-заводзкія комітэты на мясцох» (Швэрнік).

Яшчэ да гэтага часу сустракаюцца гаспадарнікі, якія недаацэньваюць значэньня аховы

працы і тэхнікі бясьпечнасьці на прадпрыемствах, якя проціставяць мерапрыемствы па ахове працы задачам выкананьня промфінпляна. Таму інстытут грамадзкіх інспэктараў па ахове працы павінен быць значна расшыран, рабочы контроль за правядзеньнем гаспадарчымі органамі мерапрыемстваў па ахове працы і тэхніцы бясьпечнасьці павінен быць значна ўзмоцнен.

Калі ўзяць пытаньні **працоўнай дысцыпліны**, то трэба прызнаць, што да гэтага часу на радзе вучасткаў дысцыпліна працы астаецца яшчэ на нізкім узроўні. Дастаткова адзначыць стан працоўнай дысцыпліны на нашым чыгуначным транспорце, на які ўказана ў пастанове СНК і ЦК УсеКП(б) аб рабоце чыгуначнага транспорта.

Задача профсаюзаў у гэтым абсягу заключаецца ў тым, каб у найкарацейшы тэрмін, апіраючыся на мільённыя масы сапраўдных рабочых-ударнікаў, устанавіць такую бальшавіцкую жалезную дысцыпліну ва **ўсіх** галінах народнай гаспадаркі, якая забясьпечыла-б бесьпарабойнае выкананьне задач першага года другой пяцігодкі.

Рашэньне партыі і ўраду аб рабоце вугальнай прамысловасьці і чыгуначнага транспорта з асаблівай вастрынёй падкрэсьлівае тое ненормальнае становішча, якое яшчэ мае месца ў організацыі **заработнай платы** і тэхнічнага нормаваньня.

*Ураўнілаўка ў аплаце працы на радзе вучасткаў яшчэ не ліквідавана і прадаўжае аставацца тормазам росту вытворчасьці працы.* Тэхнічнае нормаваньне, якое, паводле рашэньняў XVII партыйнай конфэрэнцыі, павінна зьявіцца **асновай** правільнай організацыі працы і вытворства, пабудавана ў радзе галін народнай гаспадаркі (ў прыватнасьці, у вугальнай прамысловасьці і на чыгуначным транспорце) так бюрократычна, што ня толькі не садзейнічае росту вытворчасьці працы, а наадварот—тармозіць гэты рост.

Задача профсаюзаў заключаецца ў тым, каб рашуча і ў найкарацейшы тэрмін **перабудаваць сваю работу ў абсягу рэгуляваньня заработнай платы і тэхнічнага нормаваньня** такім чынам, каб гэтая перабудова не на словах, а на справе забясьпечыла выкананьне дырэктыў партыі і ўраду аб павышэньні вытворчасьці працы. У БССР гэтая організацыйная перабудова пачынаецца. Інспэкцыі працы будуць поўнасьцю зьліты з профсаветамі.

У ЦСПСБ будуць організаваны дадатковыя аддзелы: 1) аддзел социяльнага страхаваньня 2) аддзел аховы працы, 3) бюро працоўнага законадаўства.

Ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б указаў на слабую работу прамысловасьці БССР, на цэлы рад прарываў у яе рабоце. Задача профсаюзаў заключаецца ў тым, каб, пера-

будоўваючы сваю работу, мобілізаваць шырокія масы рабочых на рэалізацыю гэтых рашэньняў пленума, на бальшавіцкае выкананьне прамфінпляна другога паўгодзьдзя, як па колькасных, так і па якасных паказчыках.

## Міжнароднае значэньне перадачы функцыі НКП профсаюзам

Перадача функцый органаў НКП профсаюзам мае таксама аграмаднае міжнароднае палітычнае значэньне.

У той час як у СССР ліквідавана беспрацоўе, растуць кадры пролетарыята, паднімаецца яго дабрабыт, няўхільна расьце бюджэт соцыяльнага страхаваньня, мацнее ахова працы, рэзка скарачаецца прамысловы траўматызм (профэсіянальныя захворваньні),—ва ўсіх капіталістычных краінах мы маем зусім адваротны малюнак: колёсальны рост беспрацоўя, нябывалае падзеньне жыцьцёвага ўзроўня пролетарыята, шалёнае наступленьне капітала на рэшткі заваяваньняў рабочай клясы ў абсягу соцыяльнага законадаўства.

У выключна жалкае становішча трапілі рэформісцкія профсаюзы, асабліва ў тых краінах, дзе пануе адкрытая фашысцкая дыктатура. Там буржуазія прыступіла да фактычнай ліквідацыі профэсіянальных організацый рабочай клясы.

*Найбольш яскравы прыклад ў гэтых адносінах прадстаўляе сабою фашысцкая Германія.*

Дзякуючы прадажніцтву германскай соцыял-дэмакратыі, рабочая кляса аказалася расколатай. Уся політыка германскай соцыял-дэмократыі і ўсяго II Інтэрнацыянала расчысьціла шлях для фашысцкага пераварота. Замест організацыі адзінага фронта барацьбы з фашызмам, германская соцыял-дэмократыя адвергла прапанову комуністычнай партыі Германіі і рэволюцыйнай профопозыцыі аб стварэньні адзінага фронта супроць фашызма.

Да прыхода Гітлера да ўлады германская соцыял-дэмократыя лічыла несваячасовым выступаць супроць фашызма. Пасьля прыхода Гітлера да ўлады германская соцыял-дэмократыя лічыла ўжо позна выступаць супроць фашызма. Германскія профсаюзы вельмі быстра прыстасоўваюцца да фашысцкага рэжыма. Профсаюзныя чыноўнікі з рэформісцкіх профсаюзаў пайшлі на службу да фашысцкай партыі і запрапанавалі свае паслугі па прыстасаваньні профэсіянальнага руху да задач фашысцкай дыктатуры.

Германскія фашысты прыбралі да сваіх рук профэсіянальныя організацыі, забралі ў іх усе сродкі, назначылі ва ўсе саюзы сваіх комісараў. Рад профсаюзаў зусім скасавалі і

стварылі так званы «адзіны профэсіянальны рух», асноўная задача якога заключаецца ў тым, каб памагаць фашысцкаму ўраду ў яго крывавай барацьбе супроць рэволюцыйнага пролетарыята.

Фашысты таксама рэорганізуюць соцыяльнае страхаваньне. Паводле гэтай «рэорганізацыі» ўзносы на соцыяльнае страхаваньне будуць адлічваць толькія рабочыя.

Фашысты адмянілі выбары органаў кіраўніцтва профэсіянальнымі саюзамі.

Такой сыстэмай організацыі профэсіянальнага руху фашысты прабуюць зьвязаць рабочую клясу па руках і па нагах і не выпадкова, што такія буйнейшыя прадпрыемствы як *Круп і інш. з вялікім адабрэньнем адносяцца да такога «адзінага профэсіянальнага руху»...*

Тое, што адбываецца з профсаюзамі ў Германіі, мае месца і ў іншых капіталістычных краінах. Рэформісцкія профсаюзы, кіруемыя прадажніцкім II Інтэрнацыяналам, ужо даўно перасталі быць абаронцамі рабочай клясы, а паставілі сябе на службу капіталу.

Толькі комуністычныя партыі згуртоўваюць сілы рэволюцыйных рабочых на стварэньне клясавых профсаюзаў, якія будуць існаваць і біцца супроць фашызма.

У абстаноўцы лютага неслабеючага экономічнага крызіса, у абстаноўцы наступленьня

капітала на самыя элемэнтарныя заваяваньні рабочай клясы капіталістычных краін, узмацненьне ролі савецкіх профсаюзаў зьяўляецца **рэволюцыянізуючым** фактарам, мобілізуючым шырокія масы рабочых пад сьцягам Комінтэрна на барацьбу з фашызмам, на барацьбу з капіталізмам.

Савецкі профрух, узяўшы ў свае рукі магутны вагар далейшага палепшаньня матэрыяльнага становішча рабочых, стане яшчэ больш згуртаваным і моцным, і пад кіраўніцтвам нашай партыі і яе правадыра т. **Сталіна** павядзе рабочую клясу нашай краіны да далейшых перамог за пабудаваньне бяскляса-вага соцыялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы.

---

## ТРЫБУНА АГІТАТАРА

*Агітатары прадпрыемстваў, саўгасаў і калгасаў! Пішыце пісьмы аб вопыце вашай працы на прадпрыемствах, у саўгасах і калгасах, у групах і брыгадах. Таксама шліце водклікі аб Блёкноце агітатара і свае пажаданьні адносна цікавячых вас пытаньняў*

## Рахлеўскі вядзе барацьбу за прамфінплян

*Тав. Бэрнштэйн* (агітмас завода Гомсельмаш).

На заводзе Гомсельмаш налічваецца 34 брыгадных агітатары. Існуючы агітколектыў працуе 3 разы ў месяц. Распрацоўваюцца вытворчыя пытаньні, а таксама вядзецца распрацоўка газэтнага і рада іншых матэрыялаў.

Мы маем добрыя прыклады работы агітатараў. Напрыклад, т. Рахлеўскі працуе ўсяго 2 месяцы агітатарам, але здолеў дабіцца адпаведных вынікаў сваёй работы.

«Як толькі я стаў працаваць агітатарам,— расказвае т. Рахлеўскі, — я зараз-жа заўважыў, што новапрыбываючыя рабочыя ў нашу брыгаду дрэнна сустракаюцца паасобнымі старымі рабочымі, што павялічвала цякучасьць рабочай сілы і перашкаджала

выкананьню прамфінпляна. Праводзячы гутаркі ў брыгадзе і сярод паасобных рабочых, я дабіўся зьнішчэньня такіх момантаў. Шмат часу мне прышлося патраціць на правільную расстаноўку рабочай сілы ў брыгадзе. За гэты час я правёў рад гутарак і чытак газэт, якія цікавяць рабочых, як, напрыклад, аб значэньні чысткі партыі, чаму часова спынен продаж збожжа, бульбы, аб становішчы ў Германіі і т. д.»

Дзякуючы добрай рабоце агітатара Рахлеўскага, мы маем выкананьне прамфінпляна па брыгадзе на 100 проц. і рост ударнікаў на 4 ч. Распрацоўваючы конкурс, абвешчаны Гаркомам КП(б)Б і Гарсаветам на лепшую вытворчасьць, брыгадны агітатар Арончык узяў абавязак памагчы двум рабочым, працуючым побач з ім, вывесьці іх з прарыву. І гэтага ён дабіўся.

Мы маем яшчэ рад прыкладаў работы агітатараў, дзе пры ўмелым разгортваньні агітацыйнай работы атрымліваюцца значныя вынікі ў выкананьні прамфінпляна.

Але ўсё-ж той факт, што завод у цэлым выканаў сваю праграму толькі на 99,6 проц. паказвае, што гэтыя нашы посьпехі ў рабоце з агітатарамі зусім недастатковы. На прыкладах лепшых мы будзем падцягваць адстаючых.

## Як працуюць агітатары на заводзе імя Ланцуцкага

*Аляксандраў* (агітмас завода імя Ланцуцкага, Гомель)

Агітколектыў на нашым заводзе організован 5 месяцаў таму назад і за гэты час мы маем значныя дасягненьні ў абсягу разгортваньня агітмасавай работы ў брыгадзе. Падказчыкам гэтага можа служыць тая грамадная работа, якая была праведзена ў пэрыяд падрыхтоўкі і правядзеньня заводзкай конфэрэнцыі па зьніжэньні сабекошту выпускаемай нашым заводам продукцыі, якое дало 140 тыс. руб. эканоміі ў год. Другім прыкладам можа служыць тое, што рабочы колектыў завода ў адказ на пастанову партыі аб чыстцы яе радоў і на пастанову СНК і ЦК УсеКП(б) аб транспорце, пабудаваў 2 новых паштовых вагоны і адрамантаваў адзін пасажырскі паравоз, якія былі перададзены 2 жніўня краіне. Агітколектыў займаўся пытаньнямі выкананьня вытворчых заданьняў, фінпляна, грамадзкай работы, разгортваньня агітработы, работы агітатара непасрэдна ў групе, брыгадзе. Падам некалькі прыкладаў работы самога групарганізатара.

Агітатар т. Карнаухаў, прапрацоўваючы ў сваёй групе пытаньне аб замацаваньні за заводам пераходнага сьцяга ЦК КП(б)Б, заклю-

чыў дагавор з рабочымі брыгады, узяўшы на сябе рад конкрэтных абавязацельстваў і выклікаў на соцспаборніцтва іншыя брыгады, у выніку чаго ў брыгадзе зусім зжыт брак.

Агітатар т. Кайрук, правёўшы індывідуальную агітацыю сярод новапрыбываючых рабочых, дабіўся ахвата падпіскай на пазыку другой пяцігодкі 20 чалавек. Астаўся 1 неахвачаны.

Агітмас т. Гольбінг, у выніку настойлівай штодзеннай агітработы ў брыгадзе, дабіўся 100-проц. ахвата рабочых брыгады членствам АСО.

Агітатар Дудзенка, вядучы падрыхтоўку да палітдня, правёў запіс цікавячых рабочых пытаньняў у часе абедзенага перапынка і сабраў такім чынам 25 пытаньняў.

Агітатар Рубінштэйн (кузьня), працуючы ў начной зьмене, у часе абеда выявіў недабраякаснае гатаваньне абедаў, аб чым паведаміў старшыні заўкома. На наступны дзень заўважыў, што для рабочых цяжкага цэха (кузьня) абед выдаваўся слабейшы, чым для рабочых больш лёгкіх цэхаў; дабіўся стварэньня комісіі, якая пацьвердзіла гэтыя факты, і праз адпаведныя органы дабіўся палепшаньня грамадзкага харчаваньня ў сваім цэху.

Агітатар т. Савуцін, у выніку сваёй штодзённай агітработы, дабіўся таго, што рабо-

*чыя яго брыгады к канцу абеда ўжо самі зьбіраюцца,* каб паслухаць што-небудзь з газэт і т. д. «Мне,—кажа т. Савуцін,—нават нялоўка становіцца самому, калі я не падрыхтую якога-небудзь матэрыяла для прапрацоўкі, а рабочыя пытаюцца,—ну што ты нам сёньня прачытаеш ці раскажаш?—нават слоў не знаходзіш, што і адказаць».

Так мала-па-малу агітатар заваёўвае сваё сапраўднае становішча ў групе. Ёсьць у нас і такія агітатары, якія і да гэтага часу не разгарнулі сваёй работы. Гэта—Губкін, Драбушэўскі і інш. Цяпер мы праводзім вячэрнія курсы групагітатараў, праз якія мы даб'ёмся большага пералома ў рабоце як агітатараў, так і ў адносінах да іх з боку цэхпартячэек.

## Пачаў з бытавой даведкі...

*Тав. Рэзеўскі* (групагітатар ГПЗ імя Кагановіча)

Калі ў мяне пытаюцца, з якога часу я вяду групавую агітацыю і з чаго я пачаў, я затрудняюся адказаць на гэта. Пачаў весьці агітработу як толькі паступіў на завод і гэта выйшла само сабою. Самыя звычайныя будзённыя справы і інтарэсы, «бытавыя дробязі», асабістыя клопаты... Рабочыя пыталіся, я адказваў на іх пытаньні і пытаўся сам.

Некаторыя рабочыя атрымлівалі пісьма з вёскі ад сваіх родных. Іх хвалявалі і прынцыповыя пытаньні колгаснага будаўніцтва, цікавілі і сотні абыдзенных практычных момантаў з жыцьця колгасаў. У такім-то колгасе не па-гаспадарску вядзецца справа... Што трэба зрабіць, каб правільна наладзіць гаспадарку? І вось яшчэ: старшыня колгаса вядзе сябе няправільна, дзе знайсьці на яго ўправу? Няправільна разьмяркоўваюць тавары ў нашым ЗРК: лепшыя тавары трапляюць прагульшчыкам, у якіх заўсёды шмат вольнага часу...

Я адказваў таварышом на іх пытаньні, указваў, як трэба ўзяцца за справу, куды паведаміць, да каго зьвярнуцца. Таварышы сталі прывыкаць да мяне і падыходзіць з усякімі клопатамі. Стары рабочы-сьлесар Бірмос— удзельнік рэволюцыі 1905 г.—зьявіўся да мяне са скаргай: не выдаюць яго двум сыном, дэмобілізаваным чырвонаармейцам харчовых картак. Галавацяпы з домакіраўніцтва адмаўляюцца выдаць стандартныя карткі. Я павёў Бірмоса ў цэхком, напісалі галавацяпам строгую паперу і дабіліся, нарэшце, свайго.

Я стаў для рабочых чымсьці накшталт даведачнага бюро, з той розьніцай, што даведачнае бюро толькі даведкі дае, а я памагаю рабочым дабівацца адказа на іх справядлівыя

*патрабаваньні. Калі ўжо гаварыць аб пачатку маёй агітацыі, то ў штодзеннай палітычнай агітацыйнай рабоце я адштурхнуўся ад бытавой «даведкі».*

Праважу я гутаркі амаль кожны дзень— раніцой і ў абедзены перапынак. Гутаркі ідуць па пытаньнях, якія востра цікавяць рабочых. Цяпер у мяне бывае да 15 чалавек, а раней, калі працавалі мы побач з групай шарыкавых і ролікавых матрыц, прывальвала і 30 і 40 сьлесараў і токараў.

Як я вяду гутаркі? Вычытаюць рабочыя што-небудзь з газэт і пачынаюць задаваць мне пытаньні. А хто не чытае, проста пытаецца, што сёньня новага ў газэтах? Прачуюць або прачытаюць пра што-небудзь і да мяне: «Ну, давай, Рэзеўскі, расказвай».

Агітатар павінен умець ня толькі расказваць і разьясняць, але і іншых слухаць, навесьці чалавека на гутарку, узбудзіць актыўную зацікаўленасьць да гутаркі. Калі няма ў рабочых пытаньняў, я ім пытаньне падкідваю, пачынаюць выказвацца і папутна чапляюць розныя пытаньні. Пагутарыць заўсёды ёсьць пра што. У аднаго сьлесара Бірмоса заўсёды на языку дзесяткі пытаньняў, пасьпявай толькі яму адказваць.

Усе тэмы нашых гутарак цесна ўвязаны з жыцьцём цэха, з нашай вытворчай і гра-

мадзка-палітычнай работай, бытавымі непаладкамі і патрэбамі.

Зараз нашу групу цікавіць, чаму мы не атрымліваем спэцвопратку, у той час, калі яна нам належыць па колдагавору. Я выклікаў з заўкома работніка па ахове працы, але ён сам быў ня ў курсе справы. Цяпер мы ставім пытаньне аб спэцвопратцы на цэхавым комітэце.

Прыкладна 8 гутарак я правёў аб чыстцы партыі. У гэтых гутарках спляліся розныя пытаньні колдагавора, зарплаты, паводзін комуністаў. Рабочыя ў часе гэтых гутарак указвалі на тое, што многія комуністы ў цэху дрэнна сочаць за выкананьнем новага колдагавора. Яшчэ ня вырашана пытаньне аб прэміяльнай сыстэме. Указвалі, што мэханік цэха, комуніст, не клапоціцца аб сваёй гаспадарцы, не хварэе за яе, як належыць члену партыі. І вось яшчэ кандыдат партыі сьлесар Буклін. Па думцы рабочых, кандыдатам яму быць яшчэ рана. Работнік ён ня дрэнны, а як камуніст нічым сябе не праявіў. Ніякай грамадзкай работы ня выконвае.

Ня было яшчэ такой гутаркі, дзе-б не ўсплывалі паднятыя рабочымі пытаньнямі вытворства. Рабочыя падмячаюць і ўказваюць на непаладкі, ўносячы прапановы, крытыкуюць. Тут асабліва добра відзён палітычны рост рабочага, яго новыя соцыялістычныя адно-

сіны да працы, яго клопат пра свой цэх, завод. А я помню, што ня ўсе мае слухачы адносіліся раней да вытворства па-гаспадарску. З вялікім напорам і гарачнасьцю указваюць яны цяпер на вымушаныя прастоі па віне паасобных работнікаў цэха. Бачыш, як хвалюе, як закранае іх за жывое заводзкае жыцьцё.

У часе абедзенага перапынка мы аглядаем і рэмантуем станкі. Для гэтага патрэбен інструмант, а інструмант ляжыць замкнёны, таму што кладаўшчыкі ў гэты час абедаюць. Рабочыя пра гэта гавораць з абурэньнем. Шмат разоў мы гаварылі пра гэта механіку Семікіну, патрабавалі арганізацыі сваёй кладоўкі, але механік цягне і нічога ня робіць. Цяпер парашылі ўзяць быка за рогі, паставіць аб гэтым рубам пытаньне ў цэхкоме, ячэйцы, і кладоўку арганізаваць.

На агітрабоце я расту, растуць разам са мною і рабочыя. У мяне стварылася актыўнае ядро слухачоў з беспартыйных сьлесараў, напрыклад: тт. Брок, Бірмос, Ефрэмаў, Галавачоў, Кітаеў, Андрэеў, Жукаў, Маслаў, кандыдаты партыі: Букін, Машкоў і інш. Сьлесар т. Брок памагае мне ў агітацыі, чытае газэты рабочым і праводзіць часам гутаркі. Многа прышлося мне папрацаваць над некаторымі таварышамі. Сьлесар т. Бірмос раней мазаў усё адным колерам, ня ўмеў га-

лоўнага ад другараднага адрозьніць. На падставе якога-небудзь выпадка або адмоўнага факта ён рабіў няправільныя вывады. Другі таварыш—беспартыйны сьлесар Ефрэмаў—з самага пачатку маіх гутарак вельмі цікавіўся жыцьцём партыі, пастановамі ўраду і т. д. Але ён таксама заўважыць, напрыклад, якія-небудзь недахопы або скажэньні ў рабоце кооперацыі, органаў міліцыі, і лічыць, што ўсюды ўсё дрэнна. З т. Ефрэмавым таксама прышлося індывідуальна папрацаваць. Цяпер ён ударнік, добры работнік. Я магу сказаць, што ва ўсіх нашых рабочых ёсьць вялікая цяга прайсьці політычную школу, але дрэнны прыклад падаюць рабочым нашы комуністы—профорг і парторг, якія самі ні на тэхвучобу, ні на політзаняткі ня ходзяць. А хто кіруе і хто заклікае вучыцца астатніх—павінен сам у першую чаргу служыць добрым прыкладам.



